№№103–104
(3642–3643)

6 ліпеня 2012 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ**

## Узяў — аддай

*Беларусь да 1 красавіка 2013 года павінна выплаціць знешнім крэдыторам 19,5 мільярда долараў.*

Золатавалютных рэзерваў краіны на гэтыя мэты не хопіць. Нагадаем, што міжнародныя рэзервы Нацыянальнага банка на 1 красавіка складалі 8,085 мільярда долараў.

Як паведамлялася, па выніках першага квартала 2012 года на абслугоўванне валавога знешняга доўгу Беларусі, які на 1 красавіка склаў 33,7 мільярда долараў, ужо было выдаткавана 2,1 мільярда, з іх 1,8 мільярда долараў пайшло на пагашэнне асноўнага доўгу, а 0,3 мільярда — на выплату працэнтаў.

**ЦЭНЫ**

## Дайшла чарга да электрычак

*Міністэрства эканомікі Беларусі павысіла тарыфы на перавозкі пасажыраў і багажу чыгуначным транспартам ва ўнутрырэспубліканскіх зносінах.*

Згодна з дакументам, на 20% будуць павышаны тарыфы на перавозкі пасажыраў прыгараднымі электра- і дызель-цягнікамі, а таксама пасажырскімі і хуткімі цягнікамі ва ўнутрырэспубліканскіх зносінах. Таксама на 20% павялічаны тарыфы на перавозкі багажу.

Акрамя таго, на 33—50% павялічаны тарыфы на перавозкі пасажыраў прыгараднымі электрацягнікамі, сфарміраванымі з вагонаў палепшаных характарыстык.

Пастанова ўступае ў сілу з 11 ліпеня.

# 7 ліпеня — 130-годдзе з дня нараджэння Вялікага беларускага Песняра Янкі Купалы

*Ці не час ужо пакінуць благую прывычку сядзець і сядзець, чакаць і чакаць?..*

*Самы найлепшы прыяцель, самы найлепшы збаўца наш ад нашага ліхалецця — гэта мы самі. І калі не хочам загінуць, калі не хочам быць вечнымі рабамі, — павінны пакінуць мы благую прывычку думаць, што нехта прыйдзе і выратуе нас з нашай бяды, з нашай няволі. Гэта ж не можа быць, каб нехта быў лепшым прыхільнікам да нас, як мы самі для сябе.*

*Не, браты, гэтакім ладам мы далёка не заедзем. Час праявіць нам і свае сілы ў будаванні новага жыцця для сваёй бацькаўшчыны, для сваіх сяліб і хат, для нашага падрастаючага маладога пакалення! Пройдуць гады, падрастуць сыны і ўнукі нашы і спытаюць нас тады: "Што зрабілі вы ў той бурны і векапомны час для сваіх патомкаў, для свайго краю?"*

**(Янка КУПАЛА, з артыкула "Больш самачыннасці", 1919 г.)**



***Вялікі дзякуй усім, хто застаўся з "Народнай Воляй" у другім паўгоддзі і хто далучыўся да нас!***

***Калі нехта спазніўся і хоча атрымліваць газету са жніўня, трэба завітаць на пошту і афарміць падпіску да 27 ліпеня.***

**Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!**

**ОФИЦИАЛЬНО**

## ООН назначает спецдокладчика по Беларуси

Совет ООН по правам человека проголосовал за введение мандата спецдокладчика по Беларуси.

За такое решение выступили 22 страны, против — 5, воздержались — 22.

В резолюции по Беларуси, принятой 5 июля на сессии Совета ООН по правам человека в Женеве, содержится призыв к белорусским властям "немедленно и безусловно освободить всех политзаключенных", провести *"полное и транспарентное расследование всех сообщений о применении пыток и негуманном обращении с политзаключенными", "немедленно прекратить практику административных задержаний представителей оппозиции, гражданского общества, журналистов и правозащитников и не препятствовать их свободному передвижению, в том числе выездам за пределы страны"*, передает БелаПАН.

Документ призывает официальный Минск выполнить все рекомендации, содержащиеся в докладе Верховного комиссара ООН по правам человека о ситуации в Беларуси, который был представлен в ходе сессии.

Резолюция также содержит призыв к белорусскому правительству о полноценном сотрудничестве со спецдокладчиком, предоставлении ему всей необходимой информации и возможностей посетить страну.

**КАНФЛІКТ**

# Закіпае...

Падобна на тое, што канфлікт паміж жыхарамі сталічнага мікрараёна "Уручча-2" і гарадскімі ўладамі дасягнуў свайго апагею. Хоць нядаўна старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька сцвярджаў, што сітуацыя пад кантролем і нічога асаблівага не адбываецца. Маўляў, пратэстуюць з дзясятак чалавек, не болей. Але на практыцы ўсё аказалася не так проста.

...Раніцай 4 ліпеня ў маленькі скверык з дзіцячай пляцоўкай, дзе да гадавіны вызвалення Мінска жыхары мікраараёна ўсталявалі памятны знак герою Вялікай Айчыннай вайны Івану Русіянаву, прыехалі будаўнікі і пачалі агароджваць тэрыторыю металічнымі канструкцыямі. Мясцовыя жыхары, якія не былі на працы, адразу сталі сцягвацца да гэтага плота, тэлефанавалі сваім суседзям, распавядалі, што чыноўнікі ўсё ж такі далі адмашку на будаўніцтва новых дамоў. Тым не менш цэлы дзень было амаль што ціха. А вось увечары ў скверы здарыўся стыхійны мітынг, на які і патрапіў журналіст "Народнай Волі".

Людзі сабраліся, каб абмеркаваць далейшыя дзеянні. Іх было няшмат — не сотні, але і не "з дзясятак". Міліцыянеры назіралі з-за плота і да натоўпу не падыходзілі. Як вядома, атмасфера ў гэтай кропцы сталіцы настолькі напружаная, што дастаткова было толькі маленькай іскры, каб успыхнула полымя.

Так і адбылося.

Малады чалавек, калі вывозіў са сквера інваліда ў калясцы, адгарнуў пралёт плота новай будоўлі, каб было больш прасторы для руху. Міліцыянераў нібы хто ў спіну пхнуў. Яны падбеглі да яго, схапілі, пачалі цягнуць у бок міліцэйскай машыны, не зважаючы на інвалідную каляску. Убачыўшы гэта, жанчыны з крыкамі "Адпусціце!" кінуліся бараніць хлопца. Сярод іх былі мамы, якія гулялі з дзецьмі на пляцоўцы. Натуральна, за мамамі пабеглі дзеці... Крыкі і валтузня зрабілі сваю справу: дзеці, як па камандзе, пачалі раўці, нібы адбываецца немаведама які гвалт. Міліцыянеры ад гэтага ўсяго хуценька рэціраваліся, хлопец павёз інваліда далей, а ўзбуджаныя жанчыны кінуліся супакойваць дзяцей.

"Народная Воля" раней распавядала пра перманентны канфлікт, які бярэ свой пачатак яшчэ ў 2005 годзе, калі жыхары даведаліся, што ў густанаселеным кутку мікрараёна збіраюцца пабудаваць некалькі "слупкоў"-шматпавярховікаў. Людзі самі звярталіся да экспертаў-эколагаў, у розных інстанцыях замаўлялі за свае грошы экспертызы, і часам чыноўнікі адступалі. Але потым зноў казалі, што ёсць зацверджаны план і яго трэба выконваць. Немагчыма нават падлічыць, колькі за гэты час адбылося сходаў, колькі разоў жыхары ставілі свае подпісы пад тым ці іншым зваротам.

21 чэрвеня на апошнім сходзе, які склікалі прадстаўнікі ўлады, таксама было далёка не "з дзясятак" чалавек. Па крайняй меры актавая зала школы №177 не магла змясціць усіх жадаючых. Людзі стаялі ў праходах, у калідоры, каля ўваходу. Выступоўцы адзін за адным даводзілі свае аргументы супраць будаўніцтва і заяўлялі, што чыноўнікі сваімі дзеяннямі правакуюць канфлікт паміж народам і ўладамі. Людзі запытвалі, чаму спецназаўцы высякалі дрэвы, якія некалькі гадоў саджалі сваімі рукамі жыхары мікрараёна, чаму штурхалі і абражалі жанчын. Зала нейкі час скандзіравала "У адстаўку! У адстаўку!" намесніку старшыні Мінгарвыканкама і кіраўніку Першамайскага раёна. На адрас гэтых "слуг народа" было выказана шмат непрыемных слоў і нават прамых абвінавачанняў. Але ў адказ ад кіраўніка раёна пачулі: "Не вы мяне прызначалі на гэтую пасаду, не вам мяне і звальняць".

Пасля гэтага і пачаўся збор подпісаў за яго адстаўку.

Чаго толькі не гучала за гэтыя дні!

На адным са сходаў мясцовая жыхарка Валянціна Пілюгіна запытвала ў намесніка кіраўніка Мінгарвыканкама Сяргея Радамана: *"Сто разоў мы казалі, што ваш праект парушае ўсе існуючыя нормы. Адкуль вы бралі лічбы? Чаму нас не ўключылі ў рабочую групу для абмеркавання, як таго патрабуе заканадаўства? Мы сабралі каля 4000 подпісаў. Вам гэтага мала? Колькі трэба сабраць — сорак, сто тысяч, каб вы нарэшце зразумелі і сталі прытрымлівацца заканадаўчых норм?!"*

Людзі крычалі з месцаў: "Мы будзем дзейнічаць, мы не саступім! Мы пойдзем на праспект з плакатамі! Мы заблакіруем усе дарогі ва Уручча!".

Дырэктар УП "Мінскград" Леанід Добыш тады так патлумачыў "Народнай Волі" сутнасць канфлікту: *"Папросту тут, ва Уруччы, ёсць вялікая група такіх людзей, якія хочуць абараняць свае правы. І робяць гэта. Але ж ёсць рашэнне, нельга ж быць такімі эгаістамі".*

Гэта адбывалася 21 чэрвеня, сітуацыю тады крыху сцішылі толькі заявы чыноўнікаў аб тым, што, магчыма, будзе знойдзена кампраміснае рашэнне. Але 4 ліпеня стала зразумела, што кампрамісу не будзе — будаўнікі пачалі рыхтаваць пляцоўку. І ў той жа дзень людзі ледзь не пабіліся з міліцыяй, ужо гатовы былі хапаць адзін аднаго за грудкі.

Учора, 5 ліпеня, падзеі пачалі паскарацца. Пачаліся і рэпрэсіі. Нечакана быў затрыманы намеснік старшыні мясцовага ЖЭКа Леанід Мажальскі. Яго завезлі ў міліцыю і там патлумачылі, што нейкі будаўнік І.А.Валасач напісаў заяву аб тым, што Мажальскі яго нібыта абразіў. Пасля гэтага прад'явілі другое абвінавачанне — у непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі, а таксама ў арганізацыі несанкцыянаванага мітынгу. Чалавеку, які ніколі не хадзіў на мітынгі і ведае пра затрыманні ў асноўным з прэсы, зрабілася кепска. Мажальскага адвезлі ў шпіталь, там аказалі медыцынскую дапамогу, зноў прывезлі ў міліцыю. На той момант, калі вярстаўся гэты нумар газеты, сваякі і суседзі Леаніда, якія чакалі каля дзвярэй міліцыі, даведаліся, што яго павезлі ў суд Першамайскага раёна. Але яшчэ не было вядома, якое будзе пакаранне.

Валянціна Пілюгіна была сярод тых, хто чакаў Леаніда. Яна сказала: *"Мы лічым, што Леаніда затрымалі толькі дзеля таго, каб нас запалохаць. Улады разлічваюць такім чынам збіць пратэстную хвалю. Але яны не разумеюць, што толькі падліваюць алей у агонь".*

Паколькі ніхто не хоча саступаць, працяг гэтай гісторыі будзе...

**Любоў ЛУНЁВА.**

**РЭБУС**

# Хто закідаў Івянец «палітызаванымі» цацкамі?

*Днямі інтэрнэт-прастора была запоўнена супярэчлівымі паведамленнямі. Шведскія СМІ заявілі, што лёгкі самалёт, пілатуемы грамадзянамі Швецыі, скінуў над пасёлкам Івянец, што непадалёк ад Мінска, плюшавыя цацкі з лозунгамі ў падтрымку свабоднай Беларусі. Беларускі бок назваў акцыю "візуальнай фальсіфікацыяй".*

Фатаграфіі з плюшавымі мядзведзікамі, якія трымаюць лозунгі *"Цацкі патрабуюць абароны правоў чалавека ў Беларусі", "Нас немагчыма прымусіць маўчаць"* і іншыя, надрукавалі некалькі беларускіх сайтаў. А шведскае выданне "The local" на сваім сайце размясціла нават відэа, на якім бачна, як самалёт нізка ляціць над пасёлкам і нешта скідвае непадалёк ад мясцовай царквы. Менавіта па царкве і пазналі, што падзеі адбываліся ў небе над пасёлкам Івянец у Валожынскім раёне.




Шведскае выданне прыводзіць і словы пілота, які сцвярджае, што вылецеў з тэрыторыі Літвы і без дазволу ўварваўся ў паветраную прастору Беларусі. Па яго словах, палёт працягваўся каля паўтары гадзіны, з-за нізкай вышыні самалёт застаўся незаўважаным беларускай супрацьпаветранай абаронай, хаця пілот не выключаў, што самалёт можа быць збіты.

Мэтай акцыі, па яго словах, была падтрымка дэмакратычных працэсаў у Беларусі. І невыпадкова акцыю правялі 4 ліпеня — на другі дзень пасля таго, як Беларусь адзначыла Дзень Незалежнасці і ў Мінску прайшоў ваенны парад. Імя пілота і ягонага спадарожніка шведскае выданне не паведамляе з меркаванняў бяспекі.

Аднак у Міністэрстве абароны Беларусі заявілі, што фактаў, якія пацвярджалі б парушэнне 4 ліпеня дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь у паветранай прасторы, няма. Што ж тычыцца відэа, то каментарый Мінабароны наступны: *"Даследуючы прадастаўленыя фота і відэаматэрыялы, эксперты выявілі грубую працу з выкарыстаннем элементаў візуальнай фальсіфікацыі, што сведчыць аб відавочна правакацыйным характары падачы інфармацыі".*

Праўда, ваенныя хоць і назвалі дадзены інцыдэнт фальсіфікацыяй, высновы, мяркуючы па ўсім, зрабілі. Учора стала вядома, што ў структуры Ваенна-паветраных сіл і войскаў супрацьпаветранай абароны Узброеных сіл Беларусі сфарміраваны 16-ы асобны полк радыёэлектроннай барацьбы з самалётнымі сродкамі. "Полк прызначаны для комплекснага тэхнічнага кантролю за працай радыёэлектронных сродкаў у інтарэсах выканання задач па супрацьпаветранай абароне", — гаворыцца ў паведамленні.

**ДАСЛОЎНА**

## Ігар ШАКУН, начальнік РАУС Валожынскага раёна: «Мне не дакладвалі»

Пасёлак Івянец размешчаны на тэрыторыі Валожынскага раёна. Датэлефанавацца ў апорны пункт мясцовай міліцыі, куды, як сцвярджаюць некаторыя жыхары пасёлка, былі дастаўлены шведскія мядзведзікі, не атрымалася: тэлефон маўчаў. А начальнік РАУС Валожынскага раёна Ігар Шакун, які, трэба разумець, па доўгу службы павінен ведаць, што адбываецца на тэрыторыі яго раёна, заявіў, што не можа пракаментаваць дадзены інцыдэнт.

— Мне нічога не вядома. Падначаленыя з Івянца мне не дакладвалі, — заявіў Ігар Уладзіміравіч і паклаў тэлефонную трубку.

**ЗВАНОК У ІВЯНЕЦ**

## «Лепей скінулі б мяса, чым цацкі»

*Што вядома жыхарам Івянца пра шведскія цацкі, якія ўпалі на пасёлак з неба? Мы вырашылі патэлефанаваць знаёмай, якая жыве ў Івянцы.*

— Цацкі кінулі з самалёта? — пытаннем на пытанне адказала нам пляменніца нашай супрацоўніцы Вольга, якая выхоўвае дваіх маленькіх дзяцей і зараз знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку. — Першы раз пра гэта чую. Сёння тэлефанавалі дзяўчаты з працы, здаецца, мы абмеркавалі ўсе апошнія навіны. Але ж пра цацкі з самалёта ніхто нічога не казаў. Калі б ведалі — абавязкова расказалі б ... Па мне, дык лепей бы скінулі мяса, а не цацкі. Прадукты ў Івянцы вельмі дарагія, я, напрыклад, езджу ў Мінск, у дыскаўнтар, у вас значна ўсё танней. І шмат маіх знаёмых таксама ўсё набываюць у Мінску. Заробкі ў Івянцы крыху больш за 2 мільёны, хаця і птушкафабрыка працуе, і керамічны завод, і іншыя прадпрыемствы. Моладзь імкнецца на працу ў Мінск, мужчыны таксама ўладкоўваюцца ў сталіцы на будаўнічыя працы...

Цікава, што журналістам шведскага выдання жыхары Івянца, з якімі ім удалося звязацца, таксама паведамілі, што ніякіх "палітызаваных" цацак у пасёлку не бачылі. А вось жыхар Івянца Вінцэнт Солтан пацвердзіў "Нашай Ніве", што 4 ліпеня раніцай, прыкладна а восьмай, нейкі самалёт праляцеў над яго хатай. Па словах спадара Солтана, самалёт ляцеў даволі нізка, мужчына нават падумаў, што будзе садзіцца.

Спадар Солтан — сталяр, жыве ў той частцы Івянца, што бліжэй да выезду ў бок Налібоцкай пушчы, далёка ад цэнтральнай плошчы.

Святлана Турко, супрацоўніца мясцовай ЖКГ, паведаміла Радыё Свабода, што былі чорныя пакункі, скінутыя з самалёта. Яна адразу расказала пра ўбачанае свайму кіраўніцтву. Жанчыну выклікалі ў міліцыю, дзе яна пабачыла некалькі тых самых пакункаў, у якіх сапраўды знаходзіліся парашуты з прымацаванымі цацачнымі мядзведзікамі і цыдулкамі на замежнай мове.

Прадпрымальнік Анатоль Раман таксама сцвярджае, што бачыў, як самалёт раскідваў чорныя пакункі і як яны ўпалі на вуліцу. Ён нават сфатаграфаваў іх на камеру мабільнага тэлефона, але пасля выдаліў, бо пабаяўся наступстваў для самога сябе...

Карацей, сапраўды нейкі незразумелы рэбус.

Беларускія памежнікі, як і Мінабароны, сцвярджаюць, што ніякі самалёт незаконна праз мяжу не пералятаў. У памежным ведамстве падкрэслілі, што нават калі б падобнае парушэнне мела месца, то быў бы закрануты гонар дзвюх сістэм СПА: беларуска-расійскай і НАТА, бо паветраную прастору над Літвой патрулююць менавіта сілы альянсу.

Літоўскія памежнікі пакуль не такія катэгарычныя ў заявах. Іх каментарый інцыдэнту (які ці то быў, ці то не быў) Балтыйскай службе навін можна звесці да аднаго слова: "Разбіраемся".

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

**КАЛІ ВЯРСТАЎСЯ НУМАР**

## Пілот самалёта назваў сябе

**Швед Томас Мазэці прызнаўся, што менавіта ён быў за штурвалам самалёта, які 4 ліпеня ажыццявіў палёт на Беларусь і "высадзіў мядзведжы дэсант" у Івянцы. Акрамя таго, у інтэрнэце было размешчана новае відэа, на якім добра бачна, што самалёт падляцеў да ўскраіны Мінска ў раёне ЦЭЦ-3 і што мядзведзікаў з цыдулкамі скідвалі таксама ў гэтым раёне.**

**Томас Мазэці заявіў, што рыхтаваўся да гэтага палёту год і што адпраўной кропкай экстрэмальнага маршруту сапраўды было мястэчка Пачуны ў Літве.**

**ИЗ ПЕРВЫХ УСТ**

## Александр ЛУКАШЕНКО:

— Я все больше и больше, особенно когда уезжаю на какое-то время из страны, возвращаюсь, с удивлением читаю или слышу о том, что вот тут вот Лукашенко — это навсегда, это навечно. И даже



апологет нашего великого государства, некогда стоявший у руля, бедный забеспокоился. Жить-то осталось совсем немного, прости меня, Господь, за это, я так подумал, но все равно страдает, что Лукашенко, захватив власть, никуда не уйдет, отдаст власть по наследству.

В который раз говорю, не оправдываясь перед вами: мои дети президентства наелись при своем отце. Никакой передачи власти по наследству быть не может.

*(Во время выступления на торжественном собрании, посвященном Дню Независимости.)*

***

Объективности ради заметим: в минувшем номере "Народной Воли" на 5-й странице также процитирован Александр Лукашенко. К сожалению, использован источник, который "по-своему", с сокращением интерпретировал высказывание в Венесуэле Президента Республики Беларусь, что, понятно, несколько сместило смысловой акцент. Полный вариант цитаты таков:

"Некоторые начали сомневаться в серьезных перспективах сотрудничества Беларуси и Венесуэлы. Здесь находится мой сын Николай, и это говорит о том, что мы всерьез и надолго заложили основы сотрудничества и есть кому перенять эстафету лет через 20—25".

Приносим извинения Президенту Республики Беларусь А.Г.Лукашенко и читателям.

**Редакция газеты "Народная Воля".**

Народная Воля http://www.nv-online.info 6 ЛІПЕНЯ 2012 г.

ВЫБАРЫ-2012

# Акругі як не было

*На сёлетніх парламенцкіх выбарах не будзе Бярозаўскай выбарчай акругі — упершыню за ўсю гісторыю выбарчых кампаній.*

Адна яе частка адышла да Пружанскай акругі, другая — да Івацэвіцкай. І гэта нягледзячы на тое, што ў Бярозаўскім раёне пражываюць амаль 67 тысяч чалавек, а ў Пружанскім і Івацэвіцкім — 52 і 57 тысяч адпаведна.

Найбольш актыўныя выбаршчыкі Бярозаўшчыны ўстрывожаны такім становішчам спраў, а таму пацікавіліся ў арганізацыйна-прававым аддзеле Цэнтральнай камісіі па выбарах, чаму так зроблена.

Намеснік начальніка гэтага аддзела Галіна Мкртычан "супакоіла", паведаміўшы, што падзел на акругі не залежыць ад колькасці насельніцтва раёна і зроблены па прапанове Брэсцкага аблвыканкама. Яна запэўніла, што не трэба перажываць, калі не будзе дэпутата з Бярозы, бо для дапамогі насельніцтву абіраюцца абласныя і мясцовыя дэпутаты, а дэпутаты Палаты прадстаўнікоў займаюцца заканатворчай дзейнасцю. Хаця, з іншага боку, па словах Мкртычан, жыхарам Бярозаўскага раёна пашчасціла: цяпер тут будуць два дэпутаты Палаты прадстаўнікоў.

Дэмакратычныя лідары Бярозаўскага раёна мяркуюць, што "перанарэзка" акругі — гэта мінімізацыя шанцаў трапіць у парламент для прадстаўнікоў апазіцыі. Па Бярозаўскай акрузе, калі б яна была, меўся балатавацца Валянцін Лазарэнкаў — кіраўнік брэсцкіх незалежных прафсаюзаў. Ён сцвярджае, што ўлады загадзя цікавіліся, ці будзе ён балатавацца. Як вынік — былой Бярозаўскай акругі няма. Затое ніякіх сур'ёзных перамен у акругах, дзе апазіцыйныя кандыдаты балатавацца не збіраліся, не адбылося.

ІНІЦЫЯТЫВА

## Адмоўлена

*Цэнтрвыбаркам Беларусі адмовіў у рэгістрацыі ініцыятыўнай групы на чале з былым кандыдатам у прэзідэнты Дзмітрыем Уссам, якая спрабавала рэалізаваць права заканадаўчай ініцыятывы па ўнясенні змяненняў у Выбарчы кодэкс.*

Аб гэтым у чацвер на пасяджэнні ЦВК заявіў сакратар Цэнтральнай камісіі Беларусі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў **Мікалай Лазавік.**

Ініцыятыўная група складалася з 323 чалавек. Яна прапаноўвала ўнесці ў выбарчае заканадаўства наступныя папраўкі: даць кандыдатам у прэзідэнты і дэпутаты права на ўключэнне іх прадстаўніка ва ўчастковыя выбарчыя камісіі; абавязаць выбарчыя камісіі пры падліку галасоў выстаўляць на агляд назіральнікаў кожны бюлетэнь; даць права кожнаму члену ўчастковых камісій ставіць свае подпісы на выбарчых бюлетэнях.

Тым не менш сутнасць прапаноў Цэнтрвыбаркам аспрэчваць не стаў. *"Мы адмаўляем вам у рэгістрацыі ініцыятыўнай групы не таму, што хтосьці цісне, а таму, што вы так склалі спісы ініцыятыўнай групы,* — сказаў Мікалай Лазавік. — *Выяўлена 49 несупадзенняў пры праверцы спісаў групы".* Таксама ен паведаміў, што сход ініцыятыўнай групы быў прызнаны неправамоцным.

*"Ні адзін подпіс намі не быў сфальсіфікаваны,* — патлумачыў Дзмітрый Усс. — *Я не ведаю, чаму так атрымалася. Мы бяром даныя людзей з арыгінальных дакументаў. Магчыма, гэтыя людзі прыйшлі да нас па нечым заданні, каб потым была магчымасць абліць мяне брудам".*

ТЫМ ЧАСАМ

## З навуковага пункту гледжання Выбарчы кодэкс таксама патрабуе змен

Месяц таму ў Беларускім дзяржаўным універсітэце адбылася абарона кандыдацкай дысертацыі "Суб'екты канстытуцыйна-прававых адносін у Рэспубліцы Беларусь", якую падрыхтавала намеснік дэкана юрыдычнага факультэта Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта Святлана Цюга. Навуковым кіраўніком працы выступіў былы старшыня Канстытуцыйнага суда і былы генеральны пракурор Рыгор Васілевіч.

Правёўшы глыбокае даследаванне тэмы, Святлана Цюга таксама прапанавала ўнясенне шэрагу змен у Выбарчы кодэкс. У тым ліку і тых, якія Цэнтрвыбаркам традыцыйна лічыў непатрэбнымі. Напрыклад, замацаванне ў Выбарчым кодэксе права назіральнікаў добра бачыць працэдуру падліку галасоў і патрабаваць пераліку бюлетэняў, калі ўзнікаюць нейкія сумненні.

Акрамя таго, вучоны абгрунтавала неабходнасць прынцыповай змены мадэлі фарміравання выбарчых камісій. Зацвярджаць іх склад, на думку Святланы Цюга, павінны не выканкамы, а мясцовыя Саветы дэпутатаў. Прычым з абавязковым уключэннем у склад камісій "прадстаўнікоў партый, якія прадстаўлены ў парламенце".

Тэарэтычна апошняя прапанова слушная. Але пакуль хоць адзін раз у краіне не пройдуць выбары, якія не па нашых, а па міжнародных стандартах будуць прызнаны свабоднымі і дэмакратычнымі, яна не спрацуе.

ТЕНДЕНЦИИ

# За безработных и пенсионеров на парламентских выборах, скорее всего, не проголосуют

*А вот у предпринимателей есть шансы получить высокий процент голосов избирателей.*

Об этом свидетельствуют итоги национального опроса, который в июне провел зарегистрированный в Вильнюсе Независимый институт социально-экономических и политических исследований.

## Спросите, как его зовут...

Белорусы не считают, что Палата представителей сильно влияет на их жизнь, и не связывают с депутатами надежд на защиту своих прав и преодоление кризисов.

**Влияет ли на вашу жизнь и жизнь ваших близких деятельность Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь? (%)**

| Вариант ответа | Сентябрь 2008 | Июнь 2012 |
|---|---|---|
| Да, влияет | 49,1 | 44,5 |
| Нет, не влияет | 37,4 | 40,3 |
| Затрудняюсь ответить/Нет ответа | 13,5 | 15,2 |

"*Но сам по себе факт признания респондентами влияния парламента на их жизнь ничего не говорит о характере влияния*, — комментируют результаты опроса эксперты НИСЭПИ. — *Оно может быть как со знаком плюс, так и со знаком минус. Поэтому не следует удивляться, что в июне большинство респондентов (46,2%) выразило сомнения по поводу способности будущего состава парламента отражать интересы общества. Доля оптимистов оказалась скромнее - 38,4%".*

Впрочем, останови сегодня на улице любого прохожего и спроси: "Знаете ли вы, как зовут вашего депутата?" — к сожалению, вряд ли услышишь конкретные имя и фамилию...

## А вы пойдете на выборы?

Социологи отмечают, что на парламентских выборах всегда была довольно высокая явка избирателей.

Для справки: явка на парламентских выборах 2008 года составила 66,1%. В 2004 году, когда парламентские выборы были совмещены с конституционным референдумом, к ящикам для голосования пришли 82,7% белорусов.

*"В первой половине июня о своей готовности принять участие в сентябре в парламентских выборах заявило 50,7% респондентов, а 29,9% еще не приняли решения,* — комментируют эксперты НИСЭПИ. — *Подобный уровень готовности голосовать за три месяца до выборов следует признать высоким. Но что интересно, только 36,7% респондентов полагают, что их личное участие в выборах способно повлиять на результат голосования. По сравнению с предыдущей парламентской избирательной кампанией доля оптимистов сократилась на 13,9 пункта. Привычка — вторая натура, и привычка голосовать в этом смысле не является исключением".*

**Как считаете, зависят ли результаты выборов от вашего голоса? (%)**

| Вариант ответа | 03'08 | 06'12 |
|---|---|---|
| Нет, не зависят | 41,1 | 54,5 |
| Да, зависят | 50,6 | 36,7 |
| Затрудняюсь ответить/Нет ответа | 8,3 | 8,8 |

При этом белорусы достаточно скептически оценивают справедливость выборов.

*"За три месяца до голосования количество негативных оценок превысило количество позитивных*, — отмечают специалисты НИСЭПИ. — *Такая социология не стыкуется с официальными заявлениями А.Лукашенко, который во время ежегодного послания заявил: "Мы обеспечивали прозрачные и открытые условия для проведения выборов, полную свободу для кандидатов".*

**Как думаете, будут ли эти выборы свободными и справедливыми? (%)**

| Вариант ответа | Июнь 2004 | Июнь 2008 | Сентябрь 2008 | Июнь 2012 |
|---|---|---|---|---|
| Нет | 44,1 | 34,8 | 30,5 | 39,6 |
| Да | 40,4 | 45,9 | 49,8 | 36,8 |
| Затрудняюсь ответить/Нет ответа | 15,5 | 19,3 | 19,7 | 23,6 |

Абсолютное большинство белорусов (63,7%) согласны с тем, что независимое наблюдение за ходом выборов содействует их большей честности и объективности. Но и доля тех, кто подобной точки зрения не разделяет, достаточно высока (27,5%).

## За кого голосовать?

Согласно данным социологов, сегодня оппозиционные кандидаты имеют больше шансов попасть в ППНС.

**За какого кандидата вы бы предпочли голосовать? (%)**

| Вариант ответа | Июнь 2008 | Сентябрь 2008 | Июнь 2012 |
|---|---|---|---|
| За сторонника А.Лукашенко | 39,6 | 43,5 | 27,6 |
| За противника А.Лукашенко | 17,7 | 19,6 | 28,2 |
| За иного кандидата | 31,4 | 21,9 | 27,4 |
| Затрудняюсь ответить/Нет ответа | 11,3 | 15,0 | 16,8 |

Однако, по мнению 45,7 % опрошенных, большинство избирателей проголосуют за сторонника Лукашенко.

Любопытно, что кандидаты из народа (пенсионеры, безработные и т.п.) не пользуются спросом на депутатском рынке. Белорусы предпочитают голосовать за людей солидных, состоявшихся профессионально.

**Представьте, что на выборах в депутаты вам надо выбрать одного из перечисленных ниже кандидатов. За кого из них вы бы проголосовали? (%)**

| Вариант ответа | Сентябрь 2008 | Июнь 2012 |
|---|---|---|
| Предприниматель, имеет собственное дело | 15,6 | 21,0 |
| Руководитель или активист общественной организации | 12,9 | 15,5 |
| Руководитель государственного предприятия | 16,9 | 14,2 |
| Депутат нынешнего Национального собрания | 16,9 | 13,3 |
| Лидер оппозиционной партии (движения) | 8,8 | 8,6 |
| Ни за одного из них | 9,7 | 15,0 |
| ЗО/НО | 19,2 | 12,4 |

## А может, все-таки бойкот?

Как известно, мнения представителей оппозиции по поводу участия в парламентских выборах разделились. Одни намерены баллотироваться в парламент, а другие призывают к бойкоту.

**Как вы относитесь к бойкоту предстоящих парламентских выборов, к которому призывает некоторая часть оппозиции? (%)**

| Вариант ответа | Сентябрь 2008 | Март 2012 | Июнь 2012 |
|---|---|---|---|
| Отрицательно | 26,5 | 20,2 | 29,5 |
| Безразлично | 24,8 | 26,5 | 28,0 |
| Положительно | 8,8 | 10,6 | 14,2 |
| Ничего не слышал об этом | 38,9 | 41,6 | 28,3 |

"В 2008 году буквально накануне парламентских выборов доля сторонников бойкота составляла всего 8,8%, — проводят параллели социологи. — Сегодня она в 1,6 раза выше и, возможно, к осени еще увеличится".

## Фальсификаторов — под суд!

Как следует поступать с теми, кто фальсифицирует выборы?

Согласно данным НИСЭПИ, 46,2% белорусов предлагают наказывать их *"по всей строгости закона".*

**Марина КОКТЫШ.**

БЕЗ ГАЛСТУКА

## Виктор КАМЕНКОВ: «В основном, конечно, ссорились из-за пустяков...»

*На минувшей неделе председатель Высшего Хозяйственного суда Беларуси Виктор Каменков презентовал "Библию о семье и для семьи". Профессор подчеркивает, что он не автор, а только составитель издания.*

— Это не коммерческий проект, а всего лишь желание помочь людям, которые имеют проблемы в семье, — *рассказал Виктор Сергеевич на презентации 640-страничного труда.* — Моя первая книга "Библия о правосудии и морали" была максимально приближена к праву. Юристов в Библии всегда интересовали такие вопросы, как смерть Христа, суд над ним — кто судил, имел ли право, какой приговор? Работая над первой книгой, я обратил внимание, что в Библии много внимания уделяется семье. У каждого из нас возникают те или иные проблемы в семье, и я убежден, что найти ответы на все вопросы можно в Библии. Так что рекомендую почитать.

*Кстати, Каменков говорит, что сам осилил Библию далеко не сразу.*

— Брался несколько раз, откладывал, затем снова изучал, — *признается он.* — Потом понял, что читать нужно не наскоком, а вдумчиво, не спеша.

*После презентации книги Виктор Каменков ответил на несколько вопросов "Народной Воли".*

**— Виктор Сергеевич, скажите: когда составляли "Библию о семье", советовались с женой, может, вместе что-то обсуждали?**

— Конечно, обсуждали. Даже зачитывали отдельные цитаты. И некоторые эпизоды из своей жизни сверяли с тем, что написано в Библии. Потому что по молодости, как и все, много ошибок допускали...

**— Вам знакомо такое понятие, как кризис семейной жизни?**

— Нет.

**— А сколько лет вашему браку?**

— 31 год. За это время, естественно, бывало всякое, но до кризиса не доходило. Мы с женой находили силы возвращаться к причине конфликта. Не эмоциям поддавались, а старались выяснить, почему так случилось. В основном, конечно, ссорились из-за пустяков...

**— У вас двое сыновей. Они женаты?**

— Пока семьей обзавелся только один сын.

**— Вы сказали, что "Библия для семьи" — не коммерческий проект. Тем не менее какой-то гонорар за книгу вам наверняка полагается...**

— Конкретную сумму назвать не могу — я ее пока просто не знаю.

**— А за предыдущую книгу — "Библию о правосудии, праве и морали"?**

— Гонорар был совсем небольшой — около миллиона белорусских рублей.

**— Если не ошибаюсь, ваша "Библия о правосудии" вышла три года назад. Стала ли она бестселлером для белорусских судей?**

— Честно говоря, вначале эту книгу восприняли с настороженностью. Непривычно, чтобы судьи государственных судов писали такие книги и пользовались Библией при осуществлении правосудия. Но когда отдельные судьи ее купили, прочитали и даже порекомендовали своим коллегам, интерес к изданию значительно повысился. И, по-моему, в системе хозяйственных судов эта книга есть у каждого судьи.

Не так давно я ездил в командировку в Украину. Меня встречает председатель Хозяйственного суда Черниговской области и... благодарит за "Библию о правосудии". Затем к белорусским издателям обратились с просьбой переиздать эту книгу в Украине. С аналогичным предложением выступила и Россия. Так что определенный интерес к "Библии о правосудии" имеется.

**— Некоторые чиновники и бизнесмены не скрывают своей набожности — много жертвуют церкви, регулярно ездят на службы, даже строят храмы. А как вы пришли в церковь?**



— Тут комплекс причин. Что-то от матери передалось. Плюс проблемы, возникающие в личной и рабочей жизни. Однажды зашел в храм и понял: это как раз то, что требуется для успокоения души, для внутренней гармонии.

**— Председатель ВХС — должность хлопотная. Книжку по ночам писали?**

— По воскресеньям.

**— Так церковь же вроде запрещает работать в этот день...**

— Над такими проектами, мне кажется, и по воскресеньям работать не грех *(улыбается).*

**— Не боитесь, что ваш безобидный труд может быть весьма неоднозначно воспринят некоторыми высшими должностными лицами? Пойдут разговоры, что, мол, Каменкову больше заняться нечем...**

— Я этого совсем не опасаюсь. Как говорится, на все воля Божья. А должности — это все временное...

**Марина КОКТЫШ.**

### Цена вопроса

**"Библия о семье" издана тиражом 1000 экземпляров, продается в обычных книжных магазинах. Стоит около 100—150 тысяч белорусских рублей.**

ДАСЛОЎНА

## Куды пойдуць дарожнікі?

*Міністэрства транспарту плануе ў 2013 годзе скараціць 1,5 тысячы працоўных месцаў.*

Як паведаміў міністр транспарту Іван Шчэрба, на пачатку 2013 года плануецца стварэнне дарожна-будаўнічага холдынга, у які ўвойдуць дарожна-будаўнічыя трэсты і ўпраўленні, ААТ "Мостабуд", ААТ "Дарбудіндустрыя", мостаатрады ААТ "Белдартранс" і ААТ "Белдартэхніка".

*"За кошт усіх пераўтварэнняў мы плануем, што каля паўтары тысячы чалавек перавядзём на іншыя работы, больш запатрабаваныя эканомікай, у тым ліку ў Мінтрансе. Гэта ж закране і адміністрацыйна-кіраўнічы персанал — дзесьці 250 чалавек. Эканомія ад рэарганізацыі будзе 50 мільярдаў рублёў па годзе. Гэтыя сродкі зможам пусціць на бягучы рамонт дарог",* — растлумачыў міністр.

БУДЬТЕ ГОТОВЫ!

## Ну и расценочки!

*Чуть больше чем через неделю стоимость обмена и выдачи водительских прав увеличится в четыре раза.*

С 19 июля вступает в силу президентский указ №197. Для водителей это означает одно: стоимость обмена и выдачи водительских прав увеличивается с 0,5 до 2 базовых величин. Пока это еще обходится в 50 тысяч рублей, а будет стоить 200 тысяч. Плюс компьютерные услуги (в Минской ГАИ это, например, 12 тысяч рублей).

Несмотря на ожидаемое подорожание, ажиотажа в межрайонных экзаменационных отделах нет. Инспекторы говорят: все, кто хотел обменять права, уже это сделали.

ФОТАФАКТ

## Мітрапаліт Кандрусевіч за здаровы лад жыцця



*Сёння ў Будславе пачынаецца святкаванне ўрачыстасцяў з нагоды літургічнага ўспаміну Маці Божай Будслаўскай.*

Паломнікі ідуць у Будслаў з розных куткоў Беларусі. 3 ліпеня з Мінска ў пакутную пілігрымку — на хлебе і вадзе — ад Чырвонага Касцёла выправіліся больш за 50 вернікаў на чале с ксяндзом Уладзіславам Завальнюком. Праз дзень — 4 ліпеня — яшчэ 17 католікаў выправіліся ў велапілігрымку. На ровар сеў і заўзяты веласіпедыст Тадэвуш Кандрусевіч — Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі.

На ровары ён, праўда, праехаў не ўвесь шлях, а толькі некалькі кіламетраў, каб падтрымаць велапілігрымаў.

"Святасць — гэта мэта, да якой вядзе нас Бог праз свой Касцёл. Ёсць многа шляхоў да святасці. Сярод якіх таксама і спорт", — сказаў Мітрапаліт Кандрусевіч падчас імшы на распачацце пілігрымкі.

Пілігрымка ў Будслаў на пачатку ліпеня — гэта традыцыя. Як вядома, 2 ліпеня штогод у Будславе адзначаецца літургічны ўспамін Маці Божай Будслаўскай. Да мясцовага касцёла ідуць тысячы католікаў. У гэтым годзе Касцёлам прынята рашэнне надаць святу рухомы характар і перанесці святкаванне ўрачыстасцяў на першую пятніцу і суботу ліпеня. Тлумачэнне: калі 2 ліпеня выпадае на працоўны дзень, шматлікія вернікі не маюць магчымасці выправіцца ў Будслаў.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

АСОБА

## Багдонас пакідае беларусам анёлка

*4 ліпеня Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Літвы ў Беларусі Эдмінас Багдонас наладзіў развітальную вечарыну.*



Ён асабіста сустракаў гасцей, апрануўшыся ў вышытую нацыянальную беларускую кашулю.

Спадар Багдонас зазначыў, што невыпадкова апрануў такую кашулю, бо гэта — знак павагі да тых людзей у Беларусі, якіх ён за пяць з паловай гадоў працы тут вельмі палюбіў і якіх вельмі паважае. Эдмінас Багдонас сказаў, што яму шкада пакідаць краіну, якой ён аддаў шмат свайго сэрца, але такі лёс дыпламата і нічога, на жаль, у дадзеным выпадку не зробіш.

Напрыканцы вечарыны спадар Багдонас звярнуў увагу гасцей на тое, што над уваходам у літоўскую амбасаду з'явіўся анёлак. *"Я звяртаюся да ўладаў Мінска з просьбай знайсці магчымасьць уладкаваць гэтага анёлка на будынку якой-небудзь інстытуцыі. Я хачу, каб гэтая фігурка ахоўвала маіх сяброў у Беларусі ад непрыемнасцяў",* — сказаў літоўскі пасол. І дадаў, што калі ўлады на такі крок не пойдуць, то анёлак застанецца ў будынку амбасады — будзе ахоўваць сяброў Літвы і нагадваць ім пра амбасадара Багдонаса, вялікага сябра нашай краіны.

Нагадаем, што 19 снежня 2010 года, у вечар пасля прэзідэнцкіх выбараў, калі пачаўся жорсткі разгон несанкцыяванай акцыі на плошчы Незалежнасці, Эдмінас Багдонас асабіста ратаваў дзяўчат ад дубінак спецназа. Верыцца, што цяпер нас будзе ахоўваць ягоны анёлак.

### ТЫМ ЧАСАМ

Цяпер літоўскае пасольства ў Беларусі ўзначаліць былы пасол Літвы ў НАТА і былы міністр абароны краіны **Лінас Лінкявічус**.

51-гадовы Лінкявічус стане пятым амбасадарам Літвы ў нашай краіне. З 2011 года ён працаваў кансультантам прэм'ер-міністра па сувязях з НАТА, паслом па асобых даручэннях. Вядомы таксама як публіцыст. Сябра Сацыял-дэмакратычнай партыі Літвы.

Назваць дату прыезду Лінаса Линкявічюса ў Мінск у літоўскай амбасадзе пакуль не змаглі. Але па паведамленнях літоўскіх СМІ, новы кіраўнік дыппрадстаўніцтва можа прыехаць у Беларусь напрыканцы ліпеня.

СІТУАЦЫЯ

# «Няўжо ў наш час магчыма такое дзікунства?!.»

*Маці затрыманага па падазрэнні ў крадзяжы Паўла Плаксы дамагаецца, каб прайшла паўнавартасная праверка па фактах катаванняў супрацоўнікамі міліцыі яе сына.*

**Паўла Плаксу** затрымалі 30 мая 2012 г. у Мінску. Яго маці, Жанна Вікенцьеўна, якая жыве ў Баранавічах, распавядае, як яна даведалася пра здарэнне і што было потым:

— Увечары мне патэлефанавала грамадзянская жонка Паўла і сказала, што яго забралі людзі, якія прадставіліся супрацоўнікамі праваахоўных органаў. Быццам бы па падазрэнні ў кватэрным крадзяжы, маўляў, грошы скраў... Пазней я даведалася, што Паўла адвезлі ў РУУС Ленінскага раёна Мінска. У дзяжурнай часці гэтую інфармацыю пацвердзілі, але падрабязнасцяў ніхто не даваў. Пагутарыла са следчым — таксама нічога канкрэтнага. І ў той жа час мне патэлефанаваў чалавек, сказаў, што ён з міліцыі, паведаміў, што можна прывезці сыну паесці, цёплыя рэчы, прадметы гігіены. Прыехала, мне ў РУУС кажуць: "Возьмем толькі ежу". З'ехала назад у Баранавічы, вечарам тэлефануе следчы: "Можаце прывезці адзенне і прадметы гігіены". У мяне ледзь істэрыка не здарылася! Я ж толькі была ў Мінску, але там адмовіліся прымаць гэтыя рэчы!

Па словах **Жанны Вікенцьеўны**, і ў той дзень яна не знайшла сына ў РУУС, яго ўжо перавялі ў ізалятар на Акрэсціна, піша **spring96.org.**

— Там, у рэшце рэшт, рэчы прынялі, — працягвае жанчына. — А мы з мужам вырашылі даведацца падрабязнасці справы. Следчы сказаў толькі, што сына павязуць у СІЗА ў Жодзіна, ідзе разбіральніцтва... Выходзім са следчага аддзела, і тут ізноў тэлефонны званок. Мужчына прадставіўся супрацоўнікам міліцыі, але прозвішча не назваў. І распавёў, што ў РУУС з Паўла моцна здзекаваліся. Быццам бы не давалі ні піць, ні есці, не вадзілі ў прыбіральню.

Сам Павел паведаміў адвакатам, што ўвесь гэты час (на працягу трох дзён) супрацоўнікі РУУС яго сістэматычна і жорстка збівалі, прымушаючы прызнацца ў крадзяжы: білі рукамі і нагамі, скакалі ў яго на спіне, неаднаразова рабілі "ластаўку" (сціскалі кайданкамі рукі за спінай, а ногі прасоўвалі пад рукі і звязвалі іх дротам). А тады ляжачага збівалі дубінкамі. Калі стамляліся біць — апранáлі на галаву цэлафанавы пакет і перакрывалі паветра.

Калі верыць таму, што сказаў Павел адвакатам, то збіванні змяняліся псіхалагічным ціскам: пагоннікі пагражалі затрымаць таксама і ягоную грамадзянскую жонку, а двухмесячнае дзіцё змясціць у бальніцу. Зверствы "праваахоўнікаў" спыняліся толькі на час прыходу следчых альбо адвакатаў.

Такім чынам яны, паводле іфармацыі праваабаронцаў, дамагаліся атрымаць ад Паўла прызнальныя паказанні ў здзяйсненні крадзяжоў.

Наколькі па-варварску каталі Паўла міліцыянты, сведчаць штодзённыя выклікі брыгады дактароў "хуткай дапамогі": 31 мая, 1 і 2 чэрвеня. Урэшце медыкі пасля правядзення медагляду адвезлі збітага ўшчэнт Паўла ў 5-ю гарадскую клінічную бальніцу. Калі сляды катаванняў схаваць стала немагчыма, паколькі падазроны не мог удзельнічаць у следчых дзеяннях, 5 чэрвеня была праведзена судова-медыцынская экспертыза.

Напалову жывая маці Паўла Плаксы зноў прыйшла да следчага.

— Я запыталася ў лоб: "Былі такія факты? Гэта так? Чаму вы нам не паведамілі?" Пачула ў адказ: "А вы пра гэта не пыталі. Вашаму сыну проста дрэнна стала, яму выклікалі "хуткую". Адзінае, што ў яго засталіся сляды ад кайданкоў. Можа быць, хацеў ад іх вызваліцца..." Дадалі, што, маўляў, многія ў камерах самі б'юцца галовамі аб сценку і ламаюць рукі і ногі.

Неабгрунтаванае прымяненне фізічнай сілы і жорсткія катаванні з боку супрацоўнікаў міліцыі Ленінскага РУУС Мінска маці і бацька Паўла Плаксы абскарджваюць у самых розных інстанцыях. Яны паведамілі аб катаваннях у пастаянную камісію Палаты прадстаўнікоў па правах чалавека, нацыянальных адносінах і СМІ, у Галоўнае ўпраўленне ўласнай бяспекі МУС, у пракуратуру Ленінскага раёна. Пракуратура паспела пераслаць скаргу бацькоў у Следчы камітэт Ленінскага раёна. Следчы І.Мукасей адпісаў бацькам, што *"заява з нагоды незаконных дзеянняў супрацоўнікаў Ленінскага РУУС Мінска ў дачыненні да вашага сына П.Плаксы далучана да матэрыялаў праверкі ад 8 чэрвеня. Пра выніки праверкі вам будзе паведамлена дадаткова".*

Аднак у праваабаронцаў маюцца сур'ёзныя падазрэнні наконт бесстароннасці і ўсебаковасці гэтай праверкі. І вось чаму.

Праваабаронца **Валянцін Стэфановіч**, каментуючы факты магчымага прымянення катаванняў у дачыненні да затрыманага Плаксы, адзначае наступнае: *"Выкарыстанне катаванняў з'яўляецца грубым парушэннем правоў чалавека. Катаванні забаронены як нацыянальным заканадаўствам Беларусі, так і міжнароднымі нормамі ў галіне правоў чалавека. У дадзенай сітуацыі мы выходзім з прэзумпцыі даверу да той інфармацыі, якую нам распавялі родныя Паўла Плаксы. Пачынаючы з 30 мая, з моманту ягонага затрымання, уся адказнасць за стан ягонага здароўя і ягонае жыццё нясуць органы следства і канкрэтныя службовыя асобы. Вось няхай яны адкажуць на пытанне: "Чаму затрыманаму маладому, фізічна здароваму хлопцу пасля шэрагу праведзеных допытаў двойчы выклікалі ў РУУС "хуткую" і накіроўвалі ў 5-ю бальніцу?"*

Пры гэтым трэба адзначыць, што праваабаронцы ўжо не ўпершыню сутыкаюцца з сітуацыяй, калі органы пракуратуры проста перасылаюць скаргі на дзеянні супрацоўнікаў міліцыі ў адпаведыя раённыя следчыя камітэты. Атрымліваецца, што органы пракуратуры, якія маюць функцыі нагляду за органамі следства, пасля стварэння інстытута Следчага камітэта не маюць права ажыццяўляць крымінальны пераслед. У выпадку з Паўлам Плаксам скарга ягоных бацькоў на дзеянні супрацоўнікаў Ленінскага РУУС была перанакіравана ў Следчы камітэт Ленінскага раёна, гэта значыць орган, які вядзе крымінальную справу Паўла і ў якім зараз працуюць былыя следчыя таго ж самага Ленінскага РУУС.

— Мы лічым, што па дадзеных фактах павінна быць праведзена належная праверка, устаноўлены віноўныя і ў выпадку ўстанаўлення іх віны прыцягнуты да вызначанай законам адказнасці. Мы будзем уважліва сачыць за гэтай справай, у тым ліку праінфармуем аб гэтым спецдакладчыка камітэта ААН супраць катаванняў, — паведаміў **Валянцін Стэфановіч**.

**Жорж КУНЦЭВІЧ.**

ЯНЫ — ПРА НАС

# Амерыканцаў папярэджваюць пра актыўнасць беларускага КДБ і беларускіх прастытутак

"Народная Воля" пацікавілася, аб чым Дзяржддэпартамент ЗША папярэджвае сваіх грамадзян, якія вырашылі наведаць Беларусь.

Злучаныя Штаты Амерыкі славяцца тым, што абараняюць кожнага свайго грамадзяніна ў любой кропцы планеты. Сайт Дзяржддэпартамента ЗША мае спецыяльны сэрвіс "Travel", дзе друкуюцца парады па кожнай краіне свету, якую амерыканцы могуць захацець наведаць. Мы прачыталі раздзел "Belarus".

### Не давай хабар абы-каму!

Нават агульная інфармацыя пра Беларусь у падачы амерыканцаў для нас выглядае нязвыкла. Плошча — менш за штат Канзас. А мы сцвярджаем, што з'яўляемся даволі буйной еўрапейскай краінай. Клімат — марозныя зімы, халаднаватае і дажджлівае лета. А для нас саміх — дык і зімы нармальныя, і лета як лета. А яшчэ амерыканцаў папярэджваюць пра сур'ёзнае экалагічнае забруджванне значнай часткі беларускай тэрыторыі, пра што мы і думаць не хочам. І пра вялікую колькасць хворых на сухоты...

Мы лічым сябе даволі гасціннымі людзьмі і актыўна запрашаем турыстаў, а Дзяржддэп папярэджвае амерыканцаў, што праблемы ў іх могуць узнікнуць ужо на беларускай мяжы. Часцей за ўсё — з транзітнымі візамі. Бо многія турыстычныя фірмы проста не ведаюць, што, калі амерыканец едзе, напрыклад, з Варшавы ў Маскву на цягніку і нават не збіраецца ступіць на беларускую зямлю, яму ўсё роўна патрэбна віза.

Былі выпадкі, калі грамадзян ЗША сілком здымалі з цягніка, папярэджвае Дзяржддэп. У некаторых выпадках мясцовыя памежнікі пагражалі пасажырам турмой і вымагалі "штрафы". "Наша рэкамендацыя — не плаціць ні памежнікам, ні чыгуначнікам ні за "транзітныя візы", ні "па штрафе", бо гэтыя асобы не маюць права выдаваць візы альбо збіраць штрафы", — раяць улады ЗША амерыканцам. А ў выпадку "настойлівасці" прадстаўнікоў Беларусі — амерыканцам рэкамендуецца адразу тэлефанаваць у амбасаду.

### Помні пра КДБ!

Дзяржддэпартамент ЗША бачыць у нашай краіне дзве галоўныя пагрозы бяспецы сваіх грамадзян, таму ім рэкамендуецца:

— Не ўдзельнічаць у вулічных акцыях.

*"У Беларусі адбываюцца і арганізаваныя, і спантанныя дэманстрацыі. Вулічныя акцыі адбываюцца ў Мінску і буйных гарадах. У некаторых выпадках улады для разгону дэманстрантаў ужываюць сілу. Выпадковыя людзі, у тым ліку замежнікі, могуць сутыкнуцца з магчымым арыштам, збіццём, утрыманнем пад вартай. Нават мірная дэманстрацыя можа скончыцца гвалтам. Таму грамадзянам ЗША рэкамендуецца пазбягаць дэманстрацый і пратэстных акцый".*

— Помніць пра вобшукі.

*"Супрацоўнікі органаў бяспекі час ад часу могуць сачыць за месцамі, якія вы наведваеце, вашы тэлефоны могуць праслухоўвацца, факсы — праглядацца, асабістыя рэчы і нумар у атэлі могуць абшукаць. Фотаздымкі, якія могуць быць успрыняты як цікавасць да абароны і бяспекі, могуць прывесці да праблем з органамі ўлады. У гэтым сэнсе нейкіх дакладных правілаў не існуе і ўсё залежыць ад інтэрпрэтацыі",* — папярэджвае Дзяржддэп.

### Глядзі ў шклянку!

Вулічную злачыннасць у Беларусі амерыканцы расцэньваюць як умераную. Узровень злачыннасці ў Мінску, па іх ацэнцы, такі ж, як у буйных гарадах ЗША. А ў сельскай мясцовасці — вельмі нізкі. Злачынствы супраць замежнікаў у цэлым здараюцца рэдка. Хаця ў Мінску рэкамендуецца быць напагатове ў метро і грамадскім транспарце.

А вось пры наведванні беларускіх начных клубаў амерыканцам настойліва раяць пільна сачыць за сваімі напоямі і звяртаць увагу на суседзяў. Таму што выпадкі, калі ў напоі замежнікаў кідаюць наркотыкі або транквілізатары, нярэдкія. Акрамя таго, Дзяржддэп папярэджвае пра актыўнасць беларускіх прастытутак, якія могуць нават адчыняць нумары атэляў у пошуку кліентаў. Да таго ж амерыканцам даводзяць, што дзейнасць большасці беларускіх казіно і стрыптыз-клубаў кантралюецца крыміналам.

Вельмі развітым відам беларускай злачыннасці называецца кіберзлачыннасць. Прычым маніпуляцыі з банкаўскімі карткамі — гэта толькі вяршыня айсберга. Да прыкладу, як высвятляецца, беларускія дзяўчаты добра навучыліся разводзіць на грошы "жаніхоў праз інтэрнэт". Хаця ніхто не гарантуе, што гэта менавіта дзяўчаты. Здымкі прыгажунь на сайце знаёмстваў могуць размяшчаць і бабулі, і дзядкі, і дужыя дзецюкі. А потым весці любоўную перапіску, каб вымантачыць грошы.

Дзяржддэп адзначае, што часта патэнцыяльныя жаніхі з ЗША губляюць тысячы долараў, калі адсылаюць іх людзям, якіх ніколі не бачылі. Пачасціліся выпадкі, калі "жаніха" запрашаюць на знаёмства ў Беларусь, бяруць з яго буйную суму на аплату транспарту і пражывання, а потым, атрымаўшы грошы на рукі, "нявеста" знікае.

Што ж тычыцца банкаўскіх картак і ўсялякіх электронных відаў аплаты, то амерыканцам рэкамендуецца быць вельмі асцярожнымі пры разліках. А яшчэ лепш — разлічвацца наяўнымі грашыма, здымаючы іх толькі ў банкаматах офісаў буйных банкаў.

### Уцякай ад беларускіх дактароў!

Людзей з абмежаванымі магчымасцямі (прасцей кажучы — інвалідаў) улады ЗША папярэджваюць, што Беларусь — краіна не для іх. Бо стаўленне да інвалідаў вельмі адрозніваецца ад таго, якое прынята ў свеце. Многія будынкі, а таксама сістэма грамадскага транспарту проста не прыстасаваны для інвалідных калясак. Не ў кожным атэлі ёсць нумары для інвалідаў-калясачнікаў, не ў кожныя дзверы яны змогуць заехаць. Таму ім раяць вельмі і вельмі ўважліва паставіцца да прыняцця рашэння паехаць у Беларусь.

Што ж тычыцца ўзроўню радыяцыі, то адзначаецца, што Мінск забруджванне абышло, хаця многія іншыя рэгіёны маюць моцнае забруджванне. *"Маніторынг на працягу некалькіх гадоў паказаў, што ўзровень радыяцыі ў Мінску не перавышае міжнародна прызнаных стандартаў. Перыядычны кантроль за прадуктамі харчавання з розных месцаў Беларусі таксама не выявіў узровень радыяцыі, які можна было разглядаць як шкодны",* — паведамляе Дзяржддэп.

А вось што тычыцца беларускіх бальніц, то ацэнка іх узроўню вельмі нізкая. *"Медыцынскае абслугоўванне ў Беларусі не з'яўляецца ні сучасным, ні лёгкадаступным. Асабліва для тых, хто не валодае рускай мовай. У Беларусі няма бальніц, якія забяспечваюць медыцынскае абслугоўванне на заходнім узроўні. Нягледзячы на тое што з'явіліся "прадвінутыя" прыватныя медыцынскія цэнтры, сучаснага дыягнастычнага абсталявання і нават прадметаў першай неабходнасці па-ранейшаму не хапае".*

Дзяржддэпартамент сцвярджае, што нашмат ніжэй за амерыканскія стандарты ўзровень абслугоўвання і кампетэнтнасць дактароў, якія спецыялізуюцца на траўмах. Што ж тычыцца "хуткай дапамогі", то *"машыны дрэнна абсталяваныя і ненадзейныя; чакаць іх прыезду 30 хвілін і больш не ёсць нешта незвычайнае".* Таму для асабістай бяспекі і надзейнасці лячэння амерыканцам раяць загадзя паклапаціцца аб медыцынскай эвакуацыі ў краіны Еўропы ў выпадку няшчасных выпадкаў і захворванняў. І яшчэ ў ЗША набываць страхоўку, якая прадугледжвае вываз пацыента з тэрыторыі Беларусі. Што ж тычыцца абавязковай беларускай страхоўкі, то яе набыць прыйдзецца, паколькі інакш не пусцяць у нашу краіну, але вялікіх надзей на яе прадстаўнікі ЗША ўскладаць не раяць.

Затое амерыканцы адзначаюць добрую якасць беларускіх дарог. Хаця папярэджваюць, што дарожны рух не такі, як у Амерыцы. Бо сучасныя аўтамабілі ездзяць па адных трасах з ціхаходнымі трактарамі, конямі, а часам і пешаходамі. Да таго ж яшчэ адной нацыянальнай беларускай праблемай, на думку прадстаўнікоў ЗША, з'яўляюцца п'яныя за рулём.

Праўда, пра гэтае бедства мы і самі ведаем.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

ПЕРЕКЛИЧКА

## Станислав ШУШКЕВИЧ: «У нас нет желающих участвовать в этом фарсе»

*Белорусская социал-демократическая Громада не будет выдвигать своих кандидатов на парламентские выборы.*

*"Официально мы еще не проводили заседание, на котором зафиксируем свою позицию. Но пока у нас нет людей, которые хотели бы участвовать в этом. Все категорически выступают за бойкот. Исходя из этого, я не вижу смысла и в выдвижении наших партийцев в окружные избирательные комиссии",* — заявил лидер партии, первый руководитель независимой Беларуси Станислав Шушкевич.

## Сергей Калякин может не пойти в депутаты

*Партия левых "Справедливый мир" приняла принципиальное решение об участии в предстоящих парламентских выборах, однако будет ли баллотироваться в депутаты Палаты представителей лидер партии Сергей Калякин, пока не решено.*

Об этом "Народной Воле" сообщил член ЦК партии Сергей Возняк.

На пленуме партии, который прошел в минувшие выходные, вопрос об участии Сергея Калякина в выборах ставился. Лидер "Справедливого мира" сообщил однопартийцам, что он, в принципе, не против того, чтобы баллотироваться в депутаты. Однако тогда непонятно, кто будет заниматься кампанией "За справедливые выборы" — по наблюдению за справедливостью и законностью избирательной кампании и подсчета голосов.

Напомним, что Сергей Калякин является одним из руководителей кампании "За справедливые выборы", которая работала уже на минувших президентских выборах.

Сергей Калякин высказал готовность выступить доверенным лицом всех кандидатов в депутаты, которые будут баллотироваться от партии. Однако до 5 августа — съезда, на котором будут выдвинуты партийные кандидаты — вопрос с выдвижением лично Калякина остается открытым.

На недавнем пленуме партия "Справедливый мир" приняла решение о полноценном участии в избирательной кампании, без снятия кандидатов. И если ранее подобная позиция высказывалась партийным руководством, но была лишь мнением, то теперь все обязаны действовать согласно требованиям партийной дисциплины.

## Решила участвовать

*Белорусская партия "Зеленые" решила участвовать в парламентских выборах.*

Председатель партии Олег Новиков рассказал, что рассматривалось несколько вариантов формата участия в выборах: полноценное участие, участие в выборах со снятием кандидатов накануне дня голосования, участие только по одному округу (Островецкий район, где строится АЭС), бойкот выборов.

По итогам голосования большинством принято решение об участии в избирательной кампании. Снятие кандидатов возможно лишь в крайнем случае.

*"С 1996 года партия вообще не участвует в парламентских выборах, и это очень большой разрыв. Так что всему приходится учиться на ходу. И сама учеба для нас важнее, чем результат. Когда мы научимся, будем считаться полноценным участником белорусского политического поля",* — сказал Олег Новиков.

ИМЕЙТЕ В ВИДУ

## Молчание — золото

Белорусская госмонополия в области проводной связи — компания "Белтелеком" — объявила о повышении с 9 июля тарифов на ряд услуг связи. Согласно сообщению на сайте предприятия, повышение тарифов не превысит 20 процентов.

В частности, будут повышены тарифы на справочно-информационные услуги; дополнительные услуги сети передачи данных; ремонт абонентских устройств; услуги видеоконференцсвязи; услуги проводного вещания; отдельные позиции по услугам хостинга.

Кроме того, подорожают телеграфная связь, дополнительные услуги местной телефонной связи, перестановка телефона, замена номера по просьбе абонента и так далее.

КАНФЛІКТ

## Шматдзетныя бацькі супраць мытнікаў

Група шматдзетных і прыёмных бацькоў патрабуе прыцягнуць да адказнасці начальніка пункта мытнага афармлення "Мінская пошта" Аляксандра Ціханавецкага. Калектыўны зварот накіраваны старшыні Дзяржаўнага мытнага камітэта Аляксандру Шпілеўскаму.

Нагодай стала тое, што мытня без тлумачэння прычын больш за чатыры месяцы не прапускае партыю спартыўнага адзення, якое паступіла для беларускіх дзяцей ад дабрачынца з Вялікабрытаніі.

*"Людзей адфутбольвалі адзін да аднаго, прапаноўвалі прыйсці заўтра, вадзілі за нос, усяляк цягнулі час, прапаноўвалі скарыстацца платнай паслугай. Пры гэтым супрацоўнікі мытні паводзілі сябе нахабна, праяўляючы фанабэрлівасць, непавагу і абыякавасць да людзей",* — гаворыцца ў калектыўным звароце, падрыхтаваным Міжнароднай грамадскай арганізацыяй "Добрая воля".

Асабліва абурае тое, што канкрэтнага адказу, чаму пасылка затрымана і што патрабуецца для яе атрымання, супрацоўнікі мытні не далі. Хаця справа ідзе не аб камерцыйнай партыі тавару, а аб адзенні для абяздоленых дзяцей, якое сабралі добрыя людзі на Захадзе. І такая сітуацыя цягнецца не адзін месяц.

Бацькі мяркуюць, што на мытні можа мець месца карупцыйная схема, калі людзей наўмысна накіроўваюць з кабінета ў кабінет, вымушаючы скарыстацца платнай паслугай. Кіраўніку ДМК цяпер прыйдзецца належным чынам праверыць праўдзівасць гэтага меркавання і даць адказ.

СЛЫШАЛИ?

# Домашним тиранам не повезет...

Прокуратура Беларуси берет на вооружение мировой опыт борьбы с домашними тиранами.

Таким методом должно стать защитное предписание — мера, которая заменит многочисленные разъяснительные беседы с теми, кто терроризирует свои семьи.

Согласно предложению прокуратуры, защитным предписанием гражданину, в отношении которого оно вынесено, может быть запрещено:

— совершать насилие в семье;

— получать информацию о месте пребывания гражданина, пострадавшего от насилия в семье, его детях, если указанные граждане по собственному желанию находятся в месте, не известном гражданину, совершившему насилие в семье;

— посещать гражданина, пострадавшего от насилия в семье, если он временно находится вне совместного места жительства с гражданином, в отношении которого вынесено предписание;

— общаться с гражданином, пострадавшим от насилия в семье, его детьми, в том числе по телефону;

— посещать места работы, учебы гражданина, пострадавшего от насилия в семье, его детей;

— распоряжаться общей совместной собственностью.

Кроме того, согласно новой редакции закона "О профилактике правонарушений", которую генпрокурор Александр Конюк уже внес на рассмотрение Палаты представителей, такому "товарищу" может быть предписано временно (на срок до трех суток) покинуть общее с гражданином, пострадавшим от насилия в семье, жилище.

Куда пойдет такой нерадивый муж, терроризирующий жену и детей, сын или дочь, не дающие покоя родителям, правоохранителей волновать не будет. Но за невыполнение защитных предписаний планируется предусмотреть вполне конкретные меры ответственности. Правда, пока они не определены.



ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО

*Президенту Республики Беларусь А.Г.Лукашенко*

# Хочу уточнить...

На огромной территории бывшего СССР, державы, перекрывающей 11 часовых поясов, цена одних и тех же товаров была одинаковой, медицинская помощь действительно общедоступной и бесплатной, а миллионы студентов вместо платы за обучение получали стипендию. Трудно поверить, что много лет подряд происходило, пусть не на все, пусть незначительное, но снижение цен, и это в период страшной послевоенной разрухи; что белорусы ездили в любую республику без виз, пошлин, таможенных и пограничных досмотров. И хотя в те времена ассортимент товаров и продуктов питания был скуднее, люди как-то обходились, радовались жизни, результативно "заботились" об увеличении народонаселения и меньше болели.

Когда наступают форс-мажорные обстоятельства, особо ценятся хлеб, соль и спички. В то время коробок спичек стоил одну копейку, пачка соли — 10, буханка хлеба — 16 копеек. Поскольку в настоящее время цены постоянно меняются, причем исключительно в сторону увеличения, то упомянутые товары сейчас стоят приблизительно 200, 2000 и 6000 рублей соответственно. Тогдашний средний пенсионер с пенсионом в 100 рублей мог приобрести 10.000 коробков спичек, или одну тонну соли, или 625 буханок хлеба. Сегодня доживший до пенсии счастливчик с пенсией в 1.500.000 рублей может купить значительно меньше товаров, особенно хлеба, всего 250 буханок. Но не хлебом единым жив человек. Ему требуется и духовная пища. Он должен посещать церковь, библиотеки, музеи, театры, а до этих мест надо добраться. Тот, советский, пенсионер при стоимости проезда в общественном транспорте 4 копейки мог совершить 2500 поездок, теперешний — в три раза меньше, а бывать в бане — меньше в 6 раз!

Вывод однозначен — мы становимся беднее. Почему-то постоянно рост цен опережает рост доходов. Значительное уменьшение платежных возможностей касается всех сторон человеческой жизни, кроме одной — алкогольно-табачной. Свершилось невероятное! При стоимости водки 4 рубля 12 копеек тогда можно было купить 24 бутылки (сегодня — 55), вина местного производства стоимостью 1 рубль 47 копеек — 68 бутылок (сегодня — 132), сигарет "Прима" без фильтра стоимостью 14 копеек — 714 пачек (сегодня — 967)! Что это? **Невинная случайность или мина замедленного действия, направленная на спаивание и удушение нации?!**

8 мая текущего года — в день Вашего, Александр Григорьевич, выступления с Посланием белорусскому народу и Национальному собранию — нашелся смелый человек. Депутат парламента Александр Александрович Шевко задал Вам вопрос в отношении компенсации советских вкладов. Эта серьезная социальная проблема была озвучена Вами еще в 1994 году в качестве одного из пунктов предвыборной программы и, несмотря на обещания, до настоящего времени достойным образом не решена. Представляется важным и то обстоятельство, что решения проблемы уже 18 лет ждут миллионы наших граждан, поскольку в стране насчитываются миллионы вкладных счетов, долгосрочных договоров страхования и целевых облигаций — документов, по которым необходимо проводить компенсационные выплаты.

На сегодняшний день не ясно, есть ли у государства деньги для расчета с гражданами, поскольку никто толком не знает, кто кому и сколько должен. Одни чиновники ссылаются на Сберегательный банк, другие — на Министерство финансов, многие — на Национальный банк, хотя все понимают, что эту задачу можете решить только Вы.

Сумма государственного долга различными источниками определяется от 1,2 миллиарда долларов США, что близко к истине, до фантастической и неподъемной суммы в 37 миллиардов! Кто и для чего "кошмарил" людей? Эту сумму назвал авторитетный человек, бывший председатель комиссии по денежно-кредитной политике и банковской деятельности парламента Республики Беларусь. Он сделал это, видимо, с целью пресечь обращения граждан о возврате долга как о заведомо невыполнимой задаче. Но на этом странности не закончились.

О самой малочисленной, но наиболее пострадавшей категории граждан — владельцах целевых облигаций существуют два документа. Из первого следует, что гражданам в 1990 году было продано 249.961 облигация на сумму 376,7 миллиона рублей, а из второго — 78.235 облигаций на сумму 152,3 миллиона рублей. Действительную причину этих расхождений выяснить не удалось, хотя все заинтересованные лица берут за основу именно второй документ! Может быть, разница где-то затерялась?

Нет вразумительного ответа на вопрос, почему в 1995 году процентные ставки рефинансирования, устанавливаемые Национальным банком, доходили до 400 процентов годовых, в результате чего сумма вклада за год удваивалась, а доллар за 15 месяцев с января 1995-го по апрель 1996 года был стабильным и стоил 11.500 рублей. Мало кто знает, сколько иностранной валюты вывезено из страны, сколько незаконно выдано льготных и валютных кредитов и как они возвращаются. Никто не подсчитывал, во что обошлись гражданам манипуляции с чеками "Имущество". Какие суммы платят автолюбители за страхование гражданской ответственности после прошлогоднего рекордного "прыжка" евро и сколько денег "выкачивается" из играющих в лото, "пятерочку" и другие азартные забавы. Интересно, кем и на основании чего устанавливаются расценки за услуги населению, если простая мужская стрижка стоит 55 тысяч рублей, укорочение ситцевой юбки — 85 тысяч, а установление причины, почему не открывается багажник автомобиля, — 600 тысяч рублей?! Ежедневно в телевизионной программе "Зона Х" рассказывается о работе наших таможенников и гаишников. Первые ловят контрабандистов, а вторые — нарушителей правил дорожного движения. Нет сомнений в том, что результаты их работы также приносят немалый доход государству.

Помнится, и об этом писала Ваша газета "Советская Белоруссия" 24 апреля 2009 года, что Вы дали поручение пересмотреть расходную часть бюджета. В результате разумной корректировки некоторых статей было сэкономлено около трех триллионов рублей. Вы тогда сказали: **"Надеюсь, что правительство и местные органы будут действовать в заданном режиме".** Это значит, освобождать бюджет от непосильных обязательств и не распылять средства на малозначимые, не приносящие отдачи проекты.

Многие известные люди считают Вас опытным и целеустремленным политиком, отмечая, что Вы ставите четкие задачи и всегда добиваетесь их решения в оговоренные сроки. В этой связи хотелось бы уточнить, **когда будут найдены деньги для достойной компенсации пропавших сбережений граждан, поскольку правительство знает, где и как искать, и когда начнутся выплаты государственного долга?**

**С уважением —**

**Леонид СКАЛУБО,**
**гражданин Республики Беларусь,**
**ветеран труда,**
**пенсионер, прадед.**

NO COMMENTS

## *Горад без жыцця*

На мінулыя святы прайшліся з сям'ёй па вуліцы Карла Маркса ў Мінску, якую нядаўна зрабілі пешаходнай.

Абсалютна пустая, вычышчаная вуліца. Выхадныя дні, дзяржаўнае свята, а на ёй нічога не адбывалася. Ні табе выстаў, ні выступленняў вулічных музыкантаў, ні гандляроў, ні сувенірных лавачак... Зусім нічога! Толькі групкі турыстаў са здзіўленнем абмяркоўвалі гэты стэрыльны і бязлюдны "мінскі Арбат".

Дык у чым была задумка гарадскіх улад, калі яны вырашылі зрабіць вуліцу па выхадных і святочных днях выключна пешаходнай? Каб туды ні машыны не ехалі, ні людзі не заходзілі? І будзем паказваць турыстам, як выглядае горад без духу жыцця?

**Вольга СІРОЦІНА.**

*Мінск.*

ТВОРЧАСЦЬ

*Анатоль ЦЫРКУНОЎ*

## *Сатырык-міратворац*

*Падняў стыло на важных шышак —*
*Прызналі скончаным вар'ятам,*
*Узяўся за катоў і мышак —*
*Стаў неўзабаве лаўрэатам...*
*І заклікае з той пары:*
*"Давайце дружна жыць, сябры!"*

## *Нерашучы*

*Усё жыццё сваё дарма*
*Чужыя цягне ношы,*
*Ніяк рашучасці няма*
*Сказаць: "Плаціце грошы!"*
*Вось так, пакорна і маўчком,*
*Ён і працуе... ішаком.*

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

# Когда следует отмечать День Независимости Беларуси?




3 июля белорусские власти с военным парадом, массовыми гуляньями и вечерним фейерверком отметили День Независимости Республики Беларусь. А почему 3 июля? Что произошло в этот день и когда?

Фактом истории является то, что 3 июля 1944 года в город Минск вошли советские войска и белорусские партизаны. (Правда, некоторые исследователи утверждают, что в этот день советская авиация бомбила оставленный немцами город и практически разрушила его.)

Безусловно, это важное событие. Но при чем здесь независимость Республики Беларусь? Освобождение Беларуси продолжалось еще долгие месяцы. И после войны никакой самостоятельности белорусского государства не было и в помине. Белорусская ССР оставалась одним из субъектов СССР. И лишь тогда, когда основа советской империи треснула, появился шанс на свободное развитие страны.

Российская Федерация первой объявила о своей независимости в рамках еще существующего Советского Союза 12 июня 1990 года. Глядя на соседей, депутаты Верховного Совета БССР 12-го созыва 27 июня 1990 г. приняли историческое решение — Декларацию "О государственном суверенитете Белорусской ССР". Украинские парламентарии решились на такой шаг еще позже — 24 августа 1990 года.

Несмотря на то что еще не поменялось название государства (БССР), это был день рождения новой Беларуси и первое заявление о ее существовании на политической карте мира.

Как отмечалось в Декларации, белорусское государство создается на основе неотъемлемого права на самоопределение, государственности белорусского языка, верховенства народа в определении своей судьбы.

Государственный суверенитет провозглашался во имя высшей цели — свободного развития и достойной жизни каждого гражданина республики.

Декларация предусматривала политические, экономические и правовые гарантии суверенитета белорусского государства.

Придавая Декларации исключительно важное значение, депутаты Верховного Совета 12-го созыва 25 августа 1991 года после провала путча ГКЧП наделили ее статусом конституционного закона, установив, что ее положения станут основой новой Конституции.

19 сентября 1991 г. парламент принял постановление о переименовании Белорусской ССР в Республику Беларусь, или сокращенно — Беларусь. В этот же день представители парламентской оппозиции внесли в зал заседаний бело-красно-белый флаг, который официально был признан в качестве нового государственного символа.

А 8 декабря 1991 г. в Беловежской пуще главами трех государств — России, Беларуси и Украины был аннулирован Договор об образовании СССР 1922 г. и заявлено о решимости создать новое межгосударственное образование свободных республик.

Так почему предается забвению дата провозглашения государственного суверенитета 27 июля 1990 года?

По традиции в этот день белорусская оппозиция собиралась на митинги и устраивала многотысячные шествия. Сначала власти отмечали этот день вместе с народом, выступая с официальными речами. Но первому президенту страны этот день почему-то не понравился. Можно предположить, что он считал его праздником белорусских националистов, которые возвели на пьедестал почета такие исторические ценности, как язык, историю, культуру, флаг, герб.

На референдуме 1996 г. А.Г.Лукашенко из пяти своих вопросов первым поставил вопрос: "Перенести День Независимости Республики Беларусь (День республики) на 3 июля — День освобождения Беларуси от гитлеровских захватчиков в Великой Отечественной войне?".

Давайте задумаемся над формулировкой этого вопроса и попробуем его оценить.

Во-первых, зачем переносить на другой срок фактически день рождения государства — первый из государственных праздников? Это также нелогично, как переносить день рождения человека. Правда, некоторые были бы не против "скинуть" несколько годиков или перенести свой день рождения на более теплое время или на более подходящую цифру.

Но ведь факт остается фактом: независимость белорусского государства была объявлена легитимным парламентом 27 июля 1990 года, о чем свидетельствует Декларация, которая остается в реестрах правовых актов.

Во-вторых, можно ли считать днем независимости Беларуси дату в 1944 году, когда еще не было самостоятельного белорусского государства? Страна лежала в развалинах, действовало военное положение. Все руководство, в том числе гражданское и партийное, подчинялось Москве.

В-третьих, можно ли такой вопрос выносить на всенародное голосование? По законодательству запрещается выносить на референдумы вопросы, ответы на которые заранее известны. Зачем было обманывать самих себя и переписывать историю страны?

О том, как проходил ноябрьский референдум 1996 года, много сказано и написано, в том числе о многочисленных нарушениях законодательства и фальсификациях. Одним из значимых нарушений следует признать издание президентского указа от 14 ноября 1996 г. об отстранении от должности председателя Центризбиркома В.И.Гончара и о назначении на эту должность Л.М.Ермошиной, которой впоследствии было дозволено подвести итоги голосования.

Для сведения отметим: по официальным данным избиратели поддержали идею с переносом Дня Независимости (Дня республики): 88,18% высказались "за" и только 10,46% — "против".

***

Несмотря на объявленные результаты голосования по вопросу о переносе Дня Независимости, следует признать исторический факт: если государственный суверенитет страны был провозглашен 27 июля 1990 года, то его и надо считать единственно правильным Днем рождения белорусского государства — Днем Независимости.

**Михаил ПАСТУХОВ,**
**бывший судья Конституционного суда.**

ТЭМУ ПРАЦЯГВАЕ ЧЫТАЧ

# Што каму есці...

## *За кім выбар — за кожным з нас ці за вытворцамі прадуктаў?*

У газеце "Народная Воля" ад 20 красавіка (№№63—64) быў надрукаваны артыкул **Марыі Буднік** *"Беларусы не хотят питаться здорово"*. На гэту тэму хачу паразважаць і я.

### Пра рапсавы алей

З артыкула вынікае, што беларусы не купляюць рапсавы алей. На мой погляд, прычына адмовы насельніцтва ад рапсавага алею звязана з тым, што не так даўно ўсе сродкі масавай інфармацыі расказвалі, як з рапсавага алею робяць таннае дызельнае паліва, ён амаль замяняе нафту. Вось і адклалася ў памяці людзей паняцце, што рапсавы алей — гэта тэхнічны прадукт, а прапаганды яго як прадукту харчавання амаль не было. Сланечнік з'яўляецца прадуктам харчавання з даўніх часоў, з яго атрымліваюць алей, халву, шарбет і іншыя смачныя прадукты. Ды і кошт рапсавага алею амаль не адрозніваецца ад таго ж сланечнікавага. Навошта браць невядомы прадукт, калі ёсць даўно табе знаёмы? Трэба знізіць цану на рапсавы алей працэнтаў на 25, тады людзі, можа, і прызвычаюцца да яго.

### Пра малако з вітамінамі

Цяпер пра дабаўкі ў малако і малочныя прадукты. Вось тут спадарыня Буднік і загадчык аддзела гігіены харчавання Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра гігіены Васіль Цыганкоў здзіўляюцца і робяць выгляд, што не ведаюць, чаму насельніцтва не хоча купляць малако і малочныя прадукты з рознымі дабаўкамі. Быццам бы гэта сіла звычкі, хаця спадарыня Буднік упамінае, што вытворцы разам з дабаўкамі павялічваюць кошт прадукту. Дык ні для каго не сакрэт, што неадэкватнае павелічэнне кошту прадукту ад унясення дабавак і з'яўляецца галоўнай прычынай адмовы пакупнікоў ад такіх прадуктаў. Трэба прызнаць, што дабаўкі ў прадукты ўносяцца не столькі ад клопату аб здароўі людзей, колькі ад жадання як мага глыбей залезці ў кішэню пакупнікоў, бо прадукты з дабаўкамі больш даражэйшыя, чым натуральныя. Каб не быць галаслоўным і падобным на тых міфічных спецыялістаў, прывяду прыклад з неабходнымі разлікамі.

У Віцебску ў магазінах прадаецца малако з вітамінам С тлустасцю 1,7% у пакетах ёмістасцю 900 мл па цане 3350 рублёў, а 1 літр такога самага па тлустасці малака без вітаміну С каштуе 1490 рублёў.

Няцяжка падлічыць, што кошт 63 міліграмаў вітаміну С, які ўтрымліваецца ў 900-мілілітровым пакеце малака, каштуе 2010 рублёў, а адсюль вынікае, што 1 г аскарбінавай кіслаты будзе каштаваць 31.900 рублёў. Каб параўнаць кошт 1 г вітаміну С у малацэ з коштам яго ў аптэцы, купіў там вітамін С з глюкозай, дзе кошт 1 г аскарбінавай кіслаты складае 1250 рублёў. Такім чынам, 1 г вітаміну С у малацэ каштуе ў 25,5 разу даражэй, чым у аптэцы.

Вось чаму беларусы адмаўляюцца ад дабавак. Такая ж сітуацыя і з іншымі дабаўкамі. Але гэта не ўсё. Надпіс на пакеце малака паведамляе, што колькасць аскарбінавай кіслаты, якая ўтрымліваецца ў 1 л малака, з'яўляецца сутачнай нормай для чалавека. Выходзіць, што вітамінізаванае малако з'яўляецца адзінай крыніцай вітаміну С для чалавека, што на самай справе не так. Кожны чалавек ужывае ў ежу садавіну, гародніну, сокі і іншыя прадукты, а цяпер і зеляніну, якіх дастаткова для пакрыцця патрэбнасці ў вітамінах. А ўжыванне яшчэ дадатковай колькасці вітаміну С можа прынесці нават шкоду арганізму чалавека. Трэба сказаць, што малако не заўсёды ўжываецца ў ежу без дадатковай яго тэмпературнай апрацоўкі, напрыклад, пры гатаванні малочных супоў і каш, у выніку чаго вітамін С, набыты па такой касмічнай цане, разбураецца. Дык ці патрэбна ўвогуле вітамінная дабаўка?

### Пра здаровае харчаванне

Калі пайшла рэч пра здаровае харчаванне, то трэба ўспомніць пра праблемы, якія звязаны са здаровым харчаваннем многіх людзей, якія ніхто не збіраецца вырашаць.

Самымі распаўсюджанымі захворваннямі людзей з'яўляюцца сардэчна-сасудзістыя, якія звязаны з павышаным утрыманнем халестэрыну ў крыві. Доктар медыцынскіх навук М.Г.Бубнова ў памятцы па здаровым харчаванні піша, што шкодны халестэрын прыводзіць да захворвання атэрасклерозам, а затым можа прывесці да інфаркту і інсульту. Каб пазбегнуць гэтага, трэба прытрымлівацца здаровага харчавання. Вось што яна прапануе: трэба абмежаваць ужыванне ўсіх тлушчаў, карыстацца малаком і малочнымі прадуктамі абястлушчанымі ці з утрыманнем тлушчу не больш як 0,5—1%, сырамі 20%-най тлустасці, таму што ў гэтых прадуктах з большым утрыманнем тлушчу вельмі шмат халестэрыну і ўжываць іх у ежу нельга. Хлеб трэба купляць з мукі грубага памолу.

Узнікае пытанне: дзе можна набыць гэтыя прадукты харчавання? У Віцебску прадаецца малако толькі тлустасцю 3,6 і 3,8% (жывы халестэрын) і малако 1,7% з вітамінам С. Хлеб з мукі грубага памолу на прылаўках не затрымліваецца. Цвёрдыя сыры ў асноўным 45—50%-най тлустасці. Раней былі ў продажы дыетычны тварог, маслёнка (пахта), а цяпер іх няма. Людзі кажуць, што ўсё ідзе за мяжу, а нам што застаецца?

Такое стаўленне да забеспячэння насельніцтва здаровым харчаваннем прыводзіць да росту сардэчна-сасудзістых захворванняў. На першым канале Беларускага радыё прагучала інфармацыя, што за апошні час колькасць сардэчна-сасудзістых захворванняў у краіне павялічылася на 5 працэнтаў.

Відаць, у нашай краіне лічыцца больш выгадным атрымаць як мага больш грошай цяпер ад продажу не для ўсіх карысных прадуктаў харчавання, якія прыводзяць да павелічэння захворванняў насельніцтва, чым прадухіліць выплаты па бальнічных лістах, зніжэнне прадукцыйнасці працы і нават зніжэнне колькасці працоўных.

Я зусім не супраць выпуску прадуктаў харчавання з дабаўкамі, малака і малочных прадуктаў з павышаным утрыманнем тлушчу. Але побач з імі павінны быць натуральныя малочныя вырабы, напрыклад, з утрыманнем тлушчу 0,5%. Няхай кожны выбірае тое, што яму патрэбна. Не трэба прымушаць насельніцтва купляць тое, што выгадна вытворцу.

**Раман Уладзіміравіч КЛАЎСУЦЬ,**
**пенсіянер.**

*Віцебск.*

ТАК ДУМАЮ...

## *Локти будем кусать*

В последнее время в Беларуси ведется много разговоров о приватизации — продаже отдельных производственных хозяйственных объектов. Часто речь заходит и о продаже такого мирового гиганта, как "Беларуськалий". Я считаю, о продаже Солигорского калийного комбината вести разговор неуместно, поскольку основные валютные поступления Беларуси дает именно "Беларуськалий".

В оценке любых ископаемых у меня лично особые взгляды. Мне приходилось работать в геологии и на шахтах в различных регионах СССР, имею около 14 лет подземного стажа. Неплохо знаю также цену калийных солей. Раньше, при старой технологии, из выданного на-гора сильвинита при его обогащении извлекали примерно 20—22 процента хлоркалия (калийных удобрений). А все остальное — в основном хлористый натрий (то есть каменная соль) — шло по конвейеру с обогатительной фабрики в отвалы. То есть арифметика такова. План на рудник (комбинат) в год был примерно 1 миллион 200 тысяч тонн калийных удобрений. Исходя из этого, в отвалы уходило где-то приблизительно 6 миллионов тонн хлорнатрия (каменной соли) и других примесей. И лишь мизерное количество этих отходов отправляли на производство технической соды на Крымский содовый завод (где-то 100 тонн в сутки).

На мировом рынке калийные соли в 1960—1970-е годы стоили примерно 50 долларов за тонну. А теперь стоимость калийных удобрений — в районе 800 долларов за тонну. А что будет на мировом рынке с ценами на калийные удобрения через 10—20 лет?! Эти 30—33 миллиарда долларов, в который оценивается сегодня "Беларуськалий", покажутся мелкой монетой! Локти будем кусать, но назад не вернем...

**Николай БОРИСИК.**

*г.Слоним.*

ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

# На скрыжаванні

Субота тады была акурат пачатак мая. Усе жыхары вёскі Нупрэвічы, хто мог яшчэ працаваць, стараліся пасадзіць бульбу на сотках. Іх далі за два кіламетры ад вёскі, у новым месцы, бо раней былі крыху бліжэй. Коней у калгасе засталося мала, і таму ўся надзея была на гаспадароў, якія яшчэ раней разжыліся матаблокамі і цяпер зараблялі добрую капейку. Да іх нават загадзя на чаргу запісваліся. Ядзя Казанчык, хата якой была на самым канцы вёскі, не запісалася, бо добра не ведала, ці прыездзе на гэтыя выхадныя сын з Мінска, адной жа такую справу не зладзіць.

Яе сын Міця прыехаў ранішнім аўтобусам, і Ядзя напрасткі пашыбавала на соткі прасіць ласкі ў Міхася Бурцэвіча, у якога быў свой матаблок з прычэпам і які нікому не адмаўляў у дапамозе. Вяскоўцы аддзячвалі яму не толькі грашыма, але і пачастункам з гарэлкай, так бы мовіць, не адыходзячы ад сотак.

Надвор'е стаяла цёплае. Сапраўды вясновае. Некаторыя мужчыны нават майкі ды сарочкі з сябе паскідвалі і загаралі, не раўнуючы як на поўдні.

— Ты, цётка Ядзя, каб хутчэй справа ішла, наймі дзе машыну ці падводу і падвязі мяшкі на поле загадзя, а то ж сама бачыш, колькі ў мяне работы, не чакай, пакуль я стану вольны і сваім матаблокам падвязу.

— Добра, Міхаська, ты садзі тым людзям, якія на чаргу запісваліся, а мы ўжо як-небудзь даставім мяхі з насеннем.

Міця (не быў бы то гарадскі і шустры хлопец) перахапіў недзе калгасны трактар, і праз якую гадзіну клубні для пасадкі, затараныя ў бялюткія мяшкі з-пад мукі, былі звезены да сотак і складзены ў роўненькую стопку.

Каб жа не "замочка" ля кожных сотак, то з работай і раней справіліся б, але ж гаспадары не хацелі адпускаць свайго дабрадзея, кожны частаваў яго ад душы, маўляў, каб бульбачка ўрадзіла як след.

Калі ўжо Міхась Бурцэвіч прыехаў на Ядзіны соткі, то быў на добрым падпітку. Але гэта справе не перашкодзіла: ён быў такі майстар, што, мабыць, і з завязанымі вачыма мог пасадзіць тыя 30 сотак, што па законе належалі Ядзі Казанчык.

Калі справа была зроблена, сонца ўжо хілілася да гарызонту, але да цемнаты было яшчэ далёка. Спаласнуўшы рукі пад вадою з пяцілітровай капронавай каністры, гаспадыня запрасіла зрабіць гэта і ўсіх кабет, што кідалі клубні ў барозны, а таксама Міцю і, вядома ж, Міхася. Яна расклала на ўзмежку каляровую цырату і выклала на яе пачастункі: марынаваныя гуркі са слоіка, магазінную каўбасу, сыр, кавалак паляндвіцы, што зберагла, лічы, ад саменькіх Каляд, калі закалола кабана, адчыніла дзве банкі шпротаў. Закуска не бог ведае якая, але падсілкавацца працаўнікам можна было нябла-га. І як самы галоўны пачастунак паставіла пасярод той цыраты дзве бутэлькі магазіннай гарэлкі.

Напрацаваўшыся, кабеты-суседкі кульнулі па чарцы і, як мае быць, прыняліся за яду. Толькі стомлены і размораны вясновым сонцам Міхась ужо амаль кляваў носам і спрабаваў адмовіцца ад пачастунку, бо гэта былі ўжо не першыя пасядзелкі за сённяшні дзень.

— Цётка Ядзя, не налівай мне! — пярэчыў ён, адхіляючы сваю чарку ад рыльца бутэлькі. — Я табе зрабіў добрую справу, і на гэтым закончым. Дасі якіх 30 тысяч рублёў — і ўсё.

— Як гэта не налівай?! — каршуном наляцела на яго Ядзя. — Такое дабро зрабіў мне ды і выпіць адмаўляешся?! Каб бульбачка ўрадзіла, каб яе дождж не замачыў ды сонца не спаліла. Нельга так! Пакрыўджуся...

— І сапраўды, Міхась, выпі, выпі, — настойвалі кабеты, што кідалі клубні ў барозны. Яны ўжо як мае быць прыкладаліся да чаркі і былі чырвоныя, нібы вячэрняя зара.

— Мне ж яшчэ ў вёску ехаць... — ужо слаба запратэставаў Міхась.

— Заедзеш, далёка тут тая вёска! Ды хіба табе ўпершыню...

Гэта было неабвержным доказам, і Міхась перакуліў чарку ў рот, закусіў хрусткім гурком. Потым гаспадыня наліла яму новую...

З поля выбіраліся ўжо прыцемкам. Узялі пустыя мяхі, кашы, і ўсе паселі ў прычэп матаблока. Маленькі ён, але памясціліся. Міхась сеў за руль. Ядзя з радасці, што зроблена такая важная ў гаспадарцы справа, завяла песню. Кабеты падхапілі, і над полем паляцела даўно знаёмая мелодыя "Якім ты быў, такім застаўся...".

Калі выязджалі з палявой дарогі, трэба было перасеч аўтамагістраль. Проста пераехаць і ўсё, бо тут было скрыжаванне. Міхась, які кляваў носам і слаба разумеў, дзе ён знаходзіцца, не прапусціў па галоўнай дарозе вялізны грузавік. Ніхто з п'янай кампаніі і ўцяміць не паспеў, як маленькі трактарчык аказаўся падмяты коламі. Вадзіцелі аўтамашын, што праносіліся міма, спыніліся, хацелі дапамагчы няшчасным, але гэта было не ў іхніх сілах. Яны выклікалі "хуткую дапамогу" і выратавальнікаў. Толькі ратаваць ужо амаль не было каго. Тры жанчыны, што дапамагалі садзіць бульбу, і сын гаспадыні Міця памерлі на месцы. Сама яна ў цяжкім стане была дастаўлена ў раённую бальніцу. Нейкім дзіўным чынам амаль што не пацярпеў гаспадар матаблока Міхась Бурцэвіч, хоць яго таксама медыкі ўзялі ў бальніцу. Уласна кажучы, ён адзін і выжыў, бо Ядзя Казанчык не дацягнула і да раніцы.

— Можа, яно і лепей, што памерла, бо як жа ёй цяжка было б перажыць смерць адзінага сына, — разважалі ў вёсцы. І мала хто палічыў прычынай трагедыі спіртное, што п'юць дзе трэба і дзе не трэба.

— Лёс такі, — казалі многія жыхары Нупрэвічаў. Можа, і лёс, але, як казаў адзін мудры чалавек, калі лезеш у агонь, то абавязкова апячэшся...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

*Дзятлаўскі раён.*

